# ЯК ЖЫВЫ З ЖЫВЫМІ

У выдавецтве Акадэміі навук БССР выйшаў у свет першы том новага Збору твораў Янкі Купалы. У гэтым годзе выйдуць яшчэ два тамы, а ў 1962—астатнія тры. Такім чынам, да знамянальнай даты — 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта БССР—будзе ажыццёўлена выданне новага Збору купалаўскіх твораў.

Пры жыцці Янкі Купалы Збор твораў выдаваўся двойчы. Першае выданне ў шасці тамах ажыццёўлена ў 1925—1932 гадах пры актыўным удзеле аўтара, другое — у 1928—1932 гадах — не было поўнасцю давedзена да канца, выйшлі толькі першыя тры тамы.

Абодва выданні не вызначаліся ні належнай паўнатой, ні дакладнасцю навуковай апрацоўкі тэкстаў. У многіх творах былі дапушчаны значныя тэксталагічныя недакладнасці, адсутнічалі каментарыі, часам няправільна вызначалася храналогія твораў і г. д. Такія ж недахопы былі ўласцівы і Збору твораў паэта ў 6-ці тамах, які быў выдадзены ў 1952—54 гадах. Усё гэта ўскладняла распрацоўку і вывучэнне літаратурнай спадчыны паэта, адмоўна адбівалася на масавых выданнях.

Новае выданне Збору твораў паэта—больш поўнае і дакладнае ў тэксталагічных адносінах у параўнанні з папярэднімі.

У першым томе, як і ў астатніх, творы паэта размеркаваны па храналагічна-жанравым прынцыпе. Том складаецца з трох асноўных раздзелаў: вершы, напісаныя ў 1904—1907 гадах; паэмы «Зімою», «Нікому», «Калека», «Адплата кахання» і вершы, перакладзеныя паэтам з польскай, рускай і ўкраінскай моваў. У канцы кнігі—каментарыі і алфавітны даведнік. Тэксты і каментарыі падрыхтаваны навуковымі супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР І. Гарэцкім і М. Мушынскім. Рэдактар тома і аўтар прадмовы да яго Міхась Лынькоў.

Укладальнікамі тома выкарыстаны архіўныя, рукапісныя матэрыялы паэта, якія захоўваюцца ў фондах Літаратурнага музея Янкі Купалы АН БССР, а таксама розныя дакастрычніцкія і паслякастрычніцкія перыядычныя выданні. У раздзеле каментарыяў значна шырэй прыводзяцца варыянты, а ў некаторых выпадках і іншыя рэдакцыі твораў паэта. У першым томе змешчаны і паэмы, якія напісаны ў перыяд з 1905 па 1907 г. і ў папярэднім Зборы твораў друкаваліся ў пятым томе.

У пачатку тома — невялікі нарыс аб жыцці і літаратурнай дзейнасці народнага паэта Янкі Купалы, у якім М. Лынькоў зусім правільна падкрэслівае, што «слова Янкі Купалы дапамагала працоўнаму чалавеку ўсвядоміць сапраўдную ролю ў жыцці, абуджала яго сацыяльную і нацыянальную самасвядомасць, услаўляла яго чалавечую годнасць». Ведучы барацьбу з буржуазнымі пісьменнікамі, Я. Купала ўжо ў ранніх творах рашуча адстойваў рэалізм, змагаўся за народнасць літаратуры, за ідэйнасць і патрыятызм, сцвярджаў рэвалюцыйна-дэмакратычныя прынцыпы эстэтыкі. Ён выступаў за перадавое мастацтва, за адлюстраванне ім грамадскага жыцця. Янка Купала — паэт горкаўскага напрамку. Агульнасць інтарэсаў, аднолькавыя клопаты аб чалавеку працы, вера ў духоўную прыгажосць яго —усё гэта аб'ядноўвала двух вялікіх людзей. Абараняючы рэалізм у мастацтве, Купала, як і Горкі, падрыхтоўваў сваёй ранняй творчасцю нараджэнне новага метаду—сацыялістычнага рэалізму.

Літаратурны шлях Янкі Купалы пачаўся з мая 1905 года, калі ў мінскай газеце «Северо-Западный край» быў змешчан яго славуты верш «Мужык».

У вершах «На службе», «Пакуль сонца ўзыйдзе», «З песень аб сваёй старонцы» і іншых паэт паказвае працэс збяднення беларускага сялянства, яго імкненне вырвацца з ланцугоў няволі, каб здабыць лепшую долю і волю. Выносячы грозны прысуд багацеям, паэт рашуча заяўляе:

Гэй, растлумач, выроддзе ўражжа,
Трутні, зладзеі пчольных прац!
Чаму, дзе труд крывавы ляжа,
Цвіце загон, стаіць палац?
Чаму я сею, а другія
З сяўбы маёй збіраюць плён?
...О, досыць, досыць! сэрца ные,
Грыміць пагудкі новай звон.
(«Спрасоння»).

Эстэтычныя погляды Янкі Купалы шмат у чым супадаюць з поглядамі Максіма Горкага. Купала цвёрда прытрымліваўся думкі, што паэт — слуга народа, а паэзія — сродак барацьбы за вызваленне працоўных. У вершы «Перад бурай», напісаным у плане горкаўскай рамантыкі, паэт пісаў:

На небе ж збіраюцца хмура за хмурай,
І гром заграхоча, і дрогне свет цэлы!

У процілегласць ліберальна-буржуазным пісьменнікам, якія ў сваіх творах зняважліва ставіліся да працоўнага беларуса, прыніжаючы яго нацыянальную годнасць, Купала стварыў велічны вобраз працоўнага чалавека, раскрыў яго выключна багатыя духоўныя якасці, яго перавагу над эксплуататарамі.

Праз увесь том праходзіць вобраз лірычнага героя — селяніна-бедняка, чалавека працы, які прайшоў суровую школу жыццёвых выпрабаванняў. Ён — носьбіт свабоды і справядлівасці, абаронца інтарэсаў народа, яго мар і спадзяванняў.

Вершы Купалы простыя, эмацыянальныя, поўныя лірычнага пачуцця і шчырасці. Яны ідуць ад народнай паэзіі і вызначаюцца выключнай напеўнасцю, багаццем унутраных рыфмаў і паўтораў.

Купала змагаўся за тое, каб літаратура праўдзіва адлюстроўвала жыццё працоўнага чалавека, абараняла яго інтарэсы і правы. Купала ўслед за Горкім рашуча дамагаўся ад перадавых пісьменнікаў, каб яны глыбока вывучалі жыццё, былі цесна звязаны з народам і шчыра служылі яму.

Змешчаныя ў першым томе паэмы сведчаць, што ўжо ў раннім перыядзе творчасці паэт спрабуе сілы і ў гэтым, больш складаным, жанры. Паэмы носяць пераважна сацыяльна-бытавы характар. У іх ярка акрэслены сюжэт з драматычнымі канфліктамі і складанымі псіхалагічнымі вобразамі. Для напісання гэтых твораў аўтар выкарыстоўваў канкрэтныя жыццёвыя факты, народныя паданні. Старажыл Яхімаўшчыны Осіп Лук'янавіч Парфен, які сустракаўся з Янкам Купалам, адзначае, што паэт вельмі любіў слухаць апавяданні з жыцця простых працоўных людзей:

«Часта-часта, амаль кожны дзень мы гаварылі з ім. Я расказваў аб жыцці сялян бліжэйшых вёсак, аб сваім жыцці, і Купала слухаў з цікавасцю. Аднойчы я расказаў бытаваўшае ў народзе апавяданне з часоў прыгону. У апавяданні расказвалася аб здзеках жорсткага пана з сваіх сялян, аб тым, як загубіў ён жыццё маладога хлопца і дзяўчыны. Твар Купалы ў час майго расказу стаў суровым, рукі яго сціскаліся ў кулакі: ён быў вельмі ўсхваляваны».

Гэтае апавяданне, перададзенае Парфенам, было пакладзена ў аснову паэмы «Нікому».

Самастойны раздзел у томе складаюць вершы, перакладзеныя Янкам Купалам з рускай, украінскай, польскай паэзіі. Асаблівую ўвагу паэта прыцягвалі творы сацыяльнага характару. Тут можна назваць вершы М. Някрасава «Што ні год, памяншаюцца сілы», «Галадоўліца», «Агароднік»; А. Міцкевіча — «Тры Будрысы», «Мужык і вужака»; Т. Шаўчэнкі— «Пажоўкнуў ліст», «Думка», «За думаю дума роем вылятае...»; Л. Кандратовіча — «На Палессі»; М. Канапніцкай — «На жалейцы», «Пара», «Каму».

У першым томе значна шырэй, чым у ранейшых выданнях, прадстаўлены купалаўскія вершы, напісаныя ў ранні перыяд творчасці. Сюды можна аднесці вершы: «Ворагам Беларушчыны», «Адзін», «Над сваёй айчызнай», «Беларускай выдавецкай суполцы «Заглянe сонца і ў наша аконца», «Нашай долі» і інш.

Тым не менш можна зрабіць папрок у адрас укладальнікаў. Імі чамусьці абыдзены і не ўключаны ў том такія выразна акрэсленыя ў ідэйных адносінах творы, як «Ніваў загоны», «Сажань шырынёю», надрукаваныя ў газеце «Наша ніва» ў 1907 г., «Пейце, старцы, дзеці», які друкаваўся ў зборніку Я. Купалы «Жалейка».

У першым томе новага выдання таксама няма і верша «Дапевак», які быў напісаны ў 1906 г. Друкаваўся ён у часопісе «Полымя» за 1930 г., а таксама ў зборах твораў паэта 1932 і 1954 гг.

У рукапісным аддзеле Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР захоўваецца сшытак купалаўскіх вершаў, напісаных на польскай мове. Гэта тыя творы, пра якія паэт гаварыў у аўтабіяграфічных пісьмах 1928 г.: «Пісаў спачатку на польскай мове, але ў хуткім часе пачаў пісаць і па-беларуску. Некалькі польскіх вершаў... было змешчана ў нейкім польскім часопісе, здаецца «Ziarno» (зб. «Любімы паэт беларускага народа», выд. АН БССР, Мінск, 1960). Вершы гэтыя («Ляці песня», «У майскую ноч», «Восень», «З успамінаў», «Беларусь», «Не для вас», «Вясна», «Беспрытульнік», «Змрокам», «Перастаньце марыць аб мінулым», «Вернецца вясна», «З асенніх матываў» і інш.— усяго 22) вызначаюцца сацыяльнай накіраванасцю. Яны па тэматыцы блізкія да ранніх твораў паэта, напісаных на беларускай мове. І дзіўна, што яны не толькі не трапілі ў том, а нават пра іх няма гаворкі ў каментарыях. А між тым яны заслугоўваюць увагі, і ўкладальнікам варта было б даследаваць іх, пазнаёміць з імі шырокія колы чытачоў.

Мы адзначалі ўжо, што ў першым томе новага выдання каментарыі зроблены значна лепш і паўней, чым у папярэдніх, аднак і тут да многіх вершаў («Ах, ці доўга...», «Гоніш мяне панічок», «Гэта крык, што жыве Беларусь», «Песня вольнага чалавека», «Плачуць мае песні» і інш.) іх чамусьці няма.

Да большасці вершаў заўвагі даволі аднастайныя. Яны пераважна канстатуюць надрукаванне твора ў тым ці іншым выданні, не раскрываючы прычын, якія абумовілі яго напісанне, яго сацыяльную вартасць і ўплыў на розныя слаі грамадства. Больш таго, ва ўступнай частцы каментарыяў не дадзена характарыстыка ранніх зборнікаў Янкі Купалы «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця», «Спадчына», на якія часта робяць спасылкі ўкладальнікі. Царская цэнзура вельмі насцярожана ставілася да творчасці маладога Янкі Купалы. Яна забараняла вершы паэта, зборнік «Жалейка» быў двойчы канфіскаваны. Пра гэта варта было сказаць у першую чаргу, падкрэсліўшы рэвалюцыйна-дэмакратычны характар ранняй творчасці паэта.

Першы том Збору твораў Янкі Купалы з густам афармлены мастаком М. Шырокавым. Ёсць і ілюстрацыі (партрэты паэта і яго маці, аўтограф верша «Мужык», фота вокладкі «Жалейкі» і фотарэпрадукцыя з аўталітаграфіі «А хто там ідзе?» мастака Я. Раманоўскага), але іх вельмі мала. Варта было б змясціць больш купалаўскіх аўтографаў, рэдкіх фотаздымкаў. Ячы наглядна пазнаёмілі б чытача з работай паэта над рукапісамі, з тагачасным літаратурным асяроддзем, з дарэвалюцыйнымі рускімі і беларускімі выданнямі.

У томе дапушчаны і асобныя граматычныя і стылістычныя памылкі, недакладныя фармуліроўкі. Усяго гэтага можна было б ўнікнуць, каб навуковыя супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР працавалі ў шчыльным кантакце з пісьменнікамі, літаратуразнаўцамі, крытыкамі. Калі б праспект тома і каментарыі да яго шырока абмяркоўваліся, дык новы Збор твораў Янкі Купалы якасна быў бы значна лепшы. Складальнікам выдання неабходна ўлічыць недахопы першага тома, каб пазбегнуць іх у наступных.

Новага Збору твораў, удакладненага, навукова пракаменціраванага, чакае ўся наша грамадскасць. Трэба спадзявацца, што ён з'явіцца добрым падарункам для ўсіх, хто любіць і шануе талент вялікага народнага песняра.

**А. ЕСАКОЎ,**
**І. ЖЫДОВІЧ.**



П. Явіч. Партрэт М. Петрусёвай — брыгадзіра калгаса імя XVIII партз'езда Талачынскага раёна.

# НА ПАЛОТНАХ МАСТАКОЎ — СЁННЯШНЯЯ ВІЦЕБШЧЫНА

Напярэдадні XXII з'езда Камуністычнай партыі ў Віцебску адкрылася мастацкая выстаўка. Невялікая па сваіх памерах, яна тым не менш зацікавіла грамадскасць. Тэмай твораў віцебскіх мастакоў з'явілася героіка сённяшніх дзён, рамантыка і паэзія працы. Полацкія нафтабудаўнікі, талачынскія ільнаводы, віцебскія стваральнікі дакладных станкоў, дываноў, ткачы, тынкоўшчыкі — вось хто знаходзіцца ў цэнтры ўвагі майстроў жывапісу, стаў героямі іх карцін. І гэта ў асноўным работы, зробленыя з густам, з любоўю, з веданнем справы, з пранікненнем у душэўны свет герояў.

Якія творы больш за ўсё прыцягвалі ўвагу гледачоў?

... Дзяўчына сярод буйнага зялёна-блакітнага ільну. Яна прыгожая, уся ў імклівым парыве. Светлы твар заклапочана-задуменны. Ёй усё тут падуладна: і высокі лён, і прастор палёў, яна тут гаспадыня. Такое ўражанне пакідае партрэт ільнаводкі М. Петрусёвай, брыгадзіра калгаса імя XVIII партз'езда Талачынскага раёна, створаны мастаком П. Явічам. З густам зроблены ім партрэт старшыні гэтага калгаса Федаровіча. Адчуваеш, што гэта чалавек заняты клопатамі, роздумам аб справах вялікай гаспадаркі, аб людзях. У вачах, у рысах твару разважлівасць, глыбокі роздум і спакой. Перад намі нацюрморт «Грыбы». Свежыя, сакавітыя баравікі. Здаецца, што яны яшчэ лепшыя, чым у лесе.

Цікавыя работы паказаў В. Кухараў. З іх вызначаецца партрэт брыгадзіра бетоншчыкаў Нафтабуда М. Кускова.

Звяртаюць увагу афорты І. Балтовіча, якія таксама прысвечаны людзям працы. «Сяброўкі з Нафтабуда» — так называецца адзін з іх. Вясёлыя дзяўчаты ў камбінезонах спяшаюцца на работу. На першы погляд, яны нічым не могуць прыцягнуць да сябе асаблівай увагі: ці ж мала мы бачым такіх вось дзяўчат на будоўлях і на іншых работах. Але прыглядаешся да малюнка і бачыш, што гэта не звычайныя дзяўчаты, пад іх грубаватым адзеннем светлыя, гарачыя душы, хаваюцца моцныя характары.

А вось яго другі афорт — «Тынкоўшчыца». Дзяўчына, падобная да тых жа сяброўак з Нафтабуда. Працуе яна сур'ёзна, старанна, з натхненнем. Яе прыгожы дзявочы твар засяроджаны, задуменны.

Добра глядзяцца творы аб людзях працы, аб героях сённяшняга дня.

На выстаўцы дэманструюцца лінагравюры Р. Клікушына. У «Сельскім пейзажы» мастак знайшоў новыя характэрныя рысы сённяшняга жыцця. Дом у засені вялікіх дрэў зззяе электрычнымі агнямі. Вокны шырокія, з іх льецца святло, адчуваецца, што ў доме прасторна і ўтульна. Каля дома стаіць аўтамабіль. Звычайная рэч сённяшняга побыту. А за першым планам вымалёўваюцца будынкі фермаў, воданапорнай вежы. Такі ў нашы дні сельскі пейзаж.

Навізной вызначаецца гравюра Клікушына «Дарога на Нафтабуд». Дарога звычайная. Але невялікія, непрыкметныя дэталі паказваюць, што гэта іменна шлях на Нафтабуд.

Віцебскія мастакі робяць добрую справу, аддаючы шмат увагі героям вялікай стваральнай працы і імкнучыся мастацкімі сродкамі адлюстраваць наш сённяшні дзень. На гэтым шляху яны знаходзяць творчае натхненне.

**М. ВАЛОДЗІН.**

# ЗАПАВОЛЕНЫМ КРОКАМ

У сваім першым паэтычным зборніку «Песні маладосці» (1959) Авяр'ян Дзеружынскі выступіў перад чытачом як паэт-песеннік. Побач з удалымі творамі тут было многа наіўных, павярхоўных па зместу, напісаных на недастатковым мастацкім узроўні. У наступным годзе выйшла кніжка вершаў і казак, напісаных А. Дзеружынскім для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, — «Цуды ёсць на свеце». Некаторыя з іх цікавыя, абуджаюць у юнага чытача здаровую фантазію. Паасобным творам гэтай кніжкі шкодзіць залішняя дыдактычнасць. Але абодвум названым зборнікам бракавала культуры верша і культуры мовы.

Сёлета выйшла трэцяя кніга паэта — «Калінавы цвет».

Па-ранейшаму, найбольш плённа працуе А. Дзеружынскі ў жанры песні. Лепшым песенным яго творам уласцівы выразны сюжэт, асноўная думка ў іх выказана лаканічна, ясна. Іменна так, на наш погляд, напісана песня «Мінскія ночы». Паэт знаходзіць выразныя дэталі, падкрэслівае асноўную думку ненадакучлівым рэфрэнам, які пасля кожнай страфы па-новаму дзейнічае на нашы пачуцці, што ўзнікаюць пад уплывам верша, узмацняе іх, прымушае задумацца над тым:

Колькі навеялі
Мінскія ночы
Светлых і радасных мар!

Поўныя пачуцця і роздуму такія лірычныя творы паэта, як «Белы гай бярозавы», «Змена вартавых», «Вяргінія», «Мінае лета», «Калінавы цвет». У апошнім з іх, напрыклад, удала выкарыстана народная песенная сімволіка. Вобраз каліны — адзін з самых распаўсюджаных і любімых у песенным фальклоры. А. Дзеружынскі пасвойму пераасэнсоўвае гэты традыцыйны фальклорны вобраз. Калі ў народных песнях ён ужываецца перш за ўсё для супастаўлення ў разгорнутых параўнаннях, дык у творы паэта каліна — задушэўная сяброўка закаханай дзяўчыны, яе дарадчыца:

Ноч укрылася
Сіняй імглой,
Толькі зоранька
Ціха ірдзее.
А каліна
Шапоча ліствой:
«Пачакай,
Не губляй ты надзеі».

Да ўдач паэта можна аднесці вершы «Максіму Багдановічу» і «Я гляджу на Каўказ...» — тэматычна розныя, але аб'яднаныя пачуццём любві да роднага краю. Гэта задушэўная размова з сябрамі, роздум над тым, чаму, гледзячы на цудоўную прыгажосць Каўказа, «што паэты ўслаўлялі ў паэмах і вершах не раз», не перастаеш думаць пра «жытнёвыя хвалі», «вербы ля ракі», пра дарагіх сваіх землякоў.

Такой натуральнасці перадачы пачуцця, на жаль, няма ў многіх творах кнігі. А. Дзеружынскі часта нібы забывае, што задума твора, неўвасобленая ў мастацкія вобразы, выказаная прасталінейна, рытарычна, не закране пачуцця чытача. Прачытаеш, напрыклад, верш «Люблю цябе, мая старонка» — і ніяк не зразумееш, за што і чаму паэт любіць свой край. Твор пазбаўлены цэласнага, паэтычна-закончанага малюнка. І неяк неперакanаўча, ненатуральна гучыць — «Усё ў душы маёй злілося» і назойлівае паўтарэнне — «люблю».

Падобныя трафарэтныя вершы (а іх у зборніку нямала) напісаны нібы толькі дзеля таго, каб у канцы падаць нейкую «мараль». А «мараль» гэтая звычайна вельмі ж неглыбокая.

Вось верш «Шумлівае вольнае мора...» Мора ніколі не ведае зморы. Сэрца паэта таксама «...ніколі не знае спакою, як хваля сівога прыбою». Аўтар верша адчувае, што гэтую паралель трэба неяк падкрэсліць. Так з'яўляюцца заключныя радкі верша-схемы:

Суцішыцца мора і ляжа
На пасцілку жоўтага пляжа.
Супынак бывае і ў мора,
А сэрца маё, непакора,
Ніколі спачынку не знае —
Смуткуе,
імкнецца,
спявае.

Вось вам і «ўвасабленне» паэтычнай задумы...

Яшчэ прыклад — верш «Вясна». Паэт апісвае, як «адцвілі вясёлыя пралескі, — увайшлі ўсе рэчкі ў берагі», «бальшакі размыла ручаямі» (?) і г. д. А затым — зусім нечаканы паварот думкі:

Сэрца, сэрца!
Біся з новай сілай.
Мы дужэем
З кожнаю вясной,
Каб высока
Шчасце каласіла,
Атуліўшы сонца
Ярыной. (?)

Вершы пра каханне, напісаныя пераважна ў форме маналога лірычнага героя, — неглыбока перадаюць пачуцці («Блізіцца вечар», «Сосны, сосны...», «Ці кахае любы?», «Твой позірк»). Апошні з названых прыводзім цалкам:

Адзін насустрач позірк —
І я нібы на Месяцы.
Адзін насустрач позірк —
Мяне як не было.
Адзін насустрач позірк —
І сэрца не на месцы:
Трапечацца, як птушка,
Што трапіла ў сіло.

Усё гэта даўно чутае, даўно вядомае.

Хацелася б, каб ад кнігі да кнігі рост паэтычнага майстэрства А. Дзеружынскага быў больш прыкметны.

**Ул. БОГАН.**

Авяр'ян Дзеружынскі. «Калінавы цвет». Песні і вершы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1961.

## Падзеі. Факты. Навіны

△ **Група артыстаў Беларускага дзяржаўнага народнага ансамбля песні і танца выступіла перад рабочымі шклозавода «Нёман» і жыхарамі пасёлка Бярозаўка. Былі выкананы творы беларускіх паэтаў, песні савецкіх кампазітараў, танцы народаў нашай краіны і краін народнай дэмакратыі.**

**В. САКАЛОЎСКІ.**

□ **У пастаноўцы народнага тэатра Браслаўскага раённага Дома культуры з поспехам ідзе спектакль «Не верце цішыні» па п'есе І. Шамякіна.**

**Нядаўна Народны тэатр выступіў у дамах культуры і сельскіх клубах Віцебскага, Дубровенскага, Аршанскага і Талачынскага раёнаў.**

□ **Гарадскі хор настаўнікаў створан пры Віцебскім музычным вучылішчы. Кіруюць хорам на грамадскіх асновах педагогі вучылішча. Звыш 50 харыстаў вывучаюць грамату, дырыжыраванне, развучваюць першую канцэртную праграму хору.**

ЧАСОПІСЫ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

# «ПОЛЫМЯ»

З нізкамі новых вершаў выступаюць у нумары Максім Танк і Максім Лужанін. Надрукаваны вершы маладых паэтаў П. Макаля, Э. Зубрыцкага, Е. Лось, Н. Кісліка.

З цікавым творам пра жыццё дарэвалюцыйнай беларускай вёскі—раманам-хронікай «Засценак Малінаўка»—выступае Аркадзь Чарнышэвіч.

Тры навелы з цыкла «Замалёўкі дзіцячага свету» змясціў у часопісе Янка Брыль. Надрукавана апавяданне Янкі Скрыгана «Прамова пракурора Кульбацкага».

«На арбіту камунізма»—так называецца апублікаваны ў нумары артыкул В. Бурносава. З артыкулам «Гэта хвалюе выкладчыкаў літаратуры» выступае ў часопісе выкладчык Абчугскай сярэдняй школы І. Рабкоў.

У лістападаўскім нумары часопіса чытач знойдзе заканчэнне дакументальнай аповесці І. Новікава «Руіны страляюць ва ўпор».

Пад рубрыкай «Успаміны, дзённікі, дакументы» часопіс публікуе фрагменты з кнігі З. Азгура «Незабыўнае».

Раздзел бібліяграфіі прадстаўлены рэцэнзіямі Я. Семяжона на паэму К. Данелайціса «Чатыры пары года», Я. Усікава на манаграфію А. Семяновіча «Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд)». Надрукаваны кароткія рэцэнзіі І. Цішчанкі на кнігу В. Бандарчыка «Еўдакім Раманавіч Раманаў» і К. Цвіркі на зборнік вершаў А. Вольскага «Чырвоная зорка».

# Людзі і вайна

Аўтар паэтычных зборнікаў, песень пра Даватара і абаронцаў Брэсцкай крэпасці Аляксандр Лазнявы паспрабаваў сілы ў прозе, апублікаваў аповесць з часоў Вялікай Айчыннай вайны «Дарога ў горы».

У жыцці чалавека бываюць моманты, калі да канца раскрываецца яго сутнасць, калі, як на далоні, відаць, чаго ён варты. У такі момант жыцця галоўных герояў аповесці—лейтэнанта Сяргея Галавені, байцоў Сцяпана Данцова і Вано Пруідзе — людзей нялёгкага лёсу — і знаёміцца з імі чытач.

Трапіўшы ў акружэнне, страціўшы баявых сяброў, дабіраюцца воіны да гор, каб знайсці там выратаванне, далучыцца да сваіх. Выхад з акружэння, абарона перавалу ў гарах жменькай савецкіх людзей занялі ўсяго два-тры тыдні. Але гэта быў незвычайны час, калі маланкава разгортваліся падзеі, у якіх з усёй глыбінёй і паўнатой выяўляліся годнасць і вартасць чалавека.

Героі аповесці — людзі розныя. Лепш за ўсё, на нашу думку, намаляваны вобраз Пруідзе; гэта вынаходлівы, гарэзлівы, тэмпераментны хлопец. Спаважны, па-сялянску гаспадарлівы Данцоў таксама запомніцца чытачу. Што датычыць лейтэнанта Галавені, дык ён нейкі афіцыйны, праз меру халодны, «аднабаковы».

Вобраз Пруідзе ўдаўся аўтару, акрамя ўсяго іншага, таму, што ён надзелен адпаведнай яго нацыянальнасці, яго характару мовай. Калі чытаеш рэплікі Пруідзе, быццам чуеш яго акцэнт, інтанацыю. Пісьменнік наогул умее індывідуалізаваць мову персанажаў. Узяць хоць бы сямідзесяцігадовага казака Мацвея Нечытайлу. Гаворка старога, перасыпаная народнымі выразамі, — багатая і каларытная. Праўда, пісьменнік часам траціць пачуццё меры. Наўрад ці дапушчальна, што ў мове ўнучкі Нечытайлы Наталкі, якая скончыла сярэднюю школу, столькі ж дыялектызмаў, колькі і ў мове дзеда.

Аўтар не прыхарошвае сваіх герояў, не раздае ім бездакорлівых характарыстык. Гэтым людзям уласцівы і слабасці, і памылкі. Вось, як напрыклад, здольны разважаць Данцоў: «Можа, застацца тут? Вярнуцца на хутар, — вось ён, зусім блізка, — і фашыстаў там няма... Але калі прыйдуць? Яны, вядома, прыйдуць... А хоць бы і так? Што тут дрэннага? Назавецца сваім, мясцовым казакам... Якая каму справа, што ён нарадзіўся і жыў недзе там, пад Белгарадам... Вось яго хата, жонка, цешча...»

Данцоў, аднак, не палахлівец, не здраднік. Гэта хвілінная слабасць учарашняга камбайнера, слабасць жывога чалавека, які трапіў у пекла вайны. Тым жа абумоўлены і ўчынак радавога Крупянкова, які ў час танкавай атакі праляжаў на дне траншэі.

Раскрываючы псіхалогію герояў, аўтар даводзіць, што крыніца гераізму савецкага чалавека ў яго выхаванні, у тым грамадскім ладзе, які ён бароніць.

У вобразах сваіх герояў пісьменнік, на жаль, не пазбег некаторай аднастайнасці і паўтарэнняў. Так, адзін і той жа ўнутраны маналог прыпісан і Пруідзе, і Галавеню: кожны ўспамінае сваю маці. Вядома, такое магло быць, асабліва на вайне. Як гаворыць каўказская прымаўка, перад маці застанешся ў даўгу нават тады, калі на сваёй далоні спячэш для яе яечню. Тым не менш, такімі паўторамі ў адным і тым жа творы нівеліруюцца вобразы герояў.

У аповесці «Дарога ў горы» гэта не адзінкавы выпадак: Данцоў мяркуе застацца на хутары, а Пруідзе — пакінуць усё і прабірацца ў Сухумі.

Без падмалёўкі падаецца ў аповесці суровая, бязлітасная праўда вайны. Гінуць узводы, роты... Але тыя, хто застаецца жыць, становяцца на месца загінуўшых, не трацячы веры ў перамогу.

Пісьменніку ўдалося ў пэўнай ступені перадаць драматызм франтавой абстаноўкі, думкі і пачуцці, што валодалі і ваеннымі, і цывільнымі. Людзей, якім на працягу многіх год здавалася, што ворага будзем біць на яго ж зямлі, мацней за ўсё турбуе адно: чаму адступаем, чаму аддаём вёскі і гарады?! У гэтым плане сімвалічны сэнс набывае сцэна, калі да Галавені, яшчэ дзесьці на Украіне, падбягае звяр'яцелая жанчына і, прыняўшы яго за сына, трасучы кулакамі, крычыць: «Кідаеш старую маці?! Уцякаеш?» Гэтае «чаму?» дзень і ноч не дае спакою і старому Нечытайлу. Калі ён шукае адказу ў Галавені, той спасылаецца на раптоўнасць нападу. Аўтар не паграшыў супраць ісціны. Тады, на другім годзе вайны, сапраўдных прычын адступлення, якія мы ведаем сёння, лейтэнант Галавеня ведаць не мог.

Па-свойму і праўдзіва паказваючы падзеі і настроі людзей, пісьменнік усё ж не здолеў пазбегнуць таго, каб у чейкай меры не пайсці на повадзе дэтэктыву. Маецца на ўвазе агент СС Андрэй Квако, які пасылаецца з адступаючымі часцямі, каб інфармаваць нямецкае камандаванне аб дыслакацыі нашых войск. Такое, вядома, магло быць. Але ці правамерна адводзіць гэтаму «герою» (вобраз яго, між іншым, выпісан добра) так многа месца? Ці трэба было прыгадваць яго радаслоўную, капацца ў яго агідным нутры, валаводзіцца з ім ад пачатку да канца аповесці? Квако, відаць, спатрэбіўся аўтару для большай «чытабельнасці» твора, каб інтрыгаваць чытача, казытаць яму нервы.

Не вельмі прыемна сустракаць у творы і гэткае «літаратурнае» дзяўчо, якое, ледзь скончыўшы дзесяць класаў, без запінкі «рэжа» па-нямецку. (Куды больш жыццёвымі, скажам, выглядаюць такія ж па ўзросту героі апавяданняў Івана Навуменкі, адзін з якіх, калі спатрэбілася прачытаць нямецкую газету, з горкай іроніяй прызнаецца: «Мы ўтрох умелі праскланяць «дэр», «ды» і «дас» і праспрагаць «габен». Мы яшчэ ведалі, як называецца чарнільніца, сшытак, кніга і школа»). У Лазнявога ж Наталка настолькі спрактыкаваная, што калі рукі афіцэра «...пачалі шарыць па целе Наталкі», яна «...раптам гулліва засмяялася, прыпала губамі да яго вуха...» і, выцягнуўшы з-пад падушкі парабелум, уцякла праз акно.

Нарэшце яшчэ пра адзін заганны прыём, якога не засцярогся аўтар. Мы маем на ўвазе партрэтныя характарыстыкі ворагаў. Твары іх — усе на адзін капыл: «Светлыя валасы звісаюць на лоб да пераносіцы. Губы тонкія, жорсткія»; «... у пакой увайшоў тоўсты лысы афіцэр... Поўны, наліты крывёю твар... здаваўся нежывой маскай... ён паглядзеў ва ўпор неміргаючымі вачыма»; «... тонкія, як запалкі, губы» і г. д.

Прыблізна з паловы аповесці, з таго моманту, калі героі пачынаюць абараняць перавал, дзеянне твора замаруджваецца, што прыводзіць да расцягнутасці кампазіцыі. Гэтага можна было б пазбегнуць, калі б, на нашу думку, аўтар менш займаўся асобай Квако, не вымушаў «філасофстваваць» (няхай сабе іншы раз і дасціпна) старога Нечытайлу, абмінуў інтымныя, усё роўна не вырашаныя, узаемаадносіны Галавені і Наталкі.

У цэлым жа аповесць Аляксандра Лазнявога «Дарога ў горы»— невялічкая, але выразная старонка вялікай эпапеі пра нязломнасць народа ў грозныя гады выпрабаванняў.

**М. ЦІХАНЧУК.**

Аляксандр Лазнявы. «Дарога ў горы». Аповесць. На рускай мове. Мінск, 1961.

Усесаюзная мастацкая выстаўка. Зала Беларускай ССР.

# НА ПОЛЬСКАЙ СЦЭНЕ

Тэатральнае жыццё ў Народнай Польшчы праходзіць пад знакам росту цікавасці да рускай і сучаснай савецкай драматургіі.

У апошні год польскія драматычныя тэатры (апрача лялечных, эстрадных, самадзейных, студэнцкіх) паказалі дзесяць новых спектакляў па творах рускіх класікаў і дваццаць сем—савецкіх аўтараў.

Побач з рускай класікай, прадстаўленай творамі Л. Талстога, А. Чэхава, М. Гогаля, А. Астроўскага, М. Горкага, А. Сухава-Кабыліна і Ул. Маякоўскага, на сцэнах польскіх тэатраў былі пастаўлены п'есы сучасных савецкіх драматургаў А. Арбузава, В. Розава, Л. Ляонава, С. Міхалкова, Я. Шварца і інш. Польскі глядач з вялікай цікавасцю знаёміцца з творамі савецкай драматургіі, якія расказваюць яму пра жыццё і працу простых савецкіх людзей—будаўнікоў камунізма.

У мінулым і бягучым сезоне на сцэнах польскіх тэатраў адбылося 47 прэм'ер твораў рускай класікі і п'ес сучаснай савецкай драматургіі. Асобнае месца ў рэпертуары польскіх тэатраў занялі драматычныя творы Л. Талстога, пастаўленыя ў сувязі з 50-годдзем з дня смерці вялікага пісьменніка.

Польскі тэатр у Пазнані паказаў п'есу «Улада цемры», якая, па вызначэнню друку, стаіць на ўзроўні вялікіх антычных драм.

Нацыянальны тэатр у Варшаве стварыў добра сыграны і запамінальны спектакль па п'есе «Жывы труп», падкрэсліўшы выкрываўчы сэнс твора.

Гэты тэатр, можна сказаць, спецыялізуецца на драматургіі Л. Талстога. Інсцэніроўка «Вайны і міру», прэм'ера якой адбылася на сцэне тэатра чатыры гады назад, да гэтага часу карыстаецца вялікім поспехам. Варшаўская пастаноўка «Вайны і міру» была перанесена і на сцэны іншых польскіх тэатраў. Спектакль «Уваскрэсенне» таксама падрыхтаваны надзвычай старанна. А выканаўцы галоўных ролей—Рысь і Ханушкевіч атрымалі высокую ацэнку гледачоў і тэатральнай крытыкі. А. Ханушкевіч—адначасова сааўтар інсцэніроўкі, пастаноўшчык і рэжысёр спектакля.

Выдатны вобраз Пратасава ў п'есе «Жывы труп» стварыў вядомы сучасны польскі драматычны артыст Ф. Жукоўскі на сцэне Дзяржаўнага тэатра імя Ярача ў Лодзі. Пастаноўка «Жывога трупа» ў Лодзі з'явілася адным з лепшых талстоўскіх спектакляў ва ўсёй краіне. Варта таксама сказаць аб творчай удачы лодзінскага «Тэатра 7.15», які паказаў польскаму гледачу класічны твор А. Сухава-Кабыліна «Смерць Тарэлкіна».

З выдатным гумарам чэхаўскіх вадэвіляў польскіх працоўных пазнаёміў тэатр імя Жаромскага ў Кельцах. Былі пастаўлены «Сватанне», «Мядзведзь» і «Доўгі язык».

Шэдэўр чэхаўскага рэалізму — «Дзядзя Ваня» быў удала паказаны рэжысёрам З. Табіянам у Люблінскім тэатры, які паставіў таксама «Аптымістычную трагедыю» Ус. Вішнеўскага. Рэжысёр Е. Загальскі пры ўдзеле такіх артыстаў, як В. Венслаў—у ролі камісара, С. Мікульскі—у ролі Аляксея, стварыў спектакль глыбока эмацыянальны, насычаны сапраўднай рэвалюцыйнай рамантыкай. Гэтая ж п'еса была пастаўлена рэжысёрам Т. Александровічам у тэатры імя Славацкага ў Кашаліне.

З іншых твораў рускай класікі на польскай сцэне варта адзначыць «Навальніцу» А. Астроўскага ў пастаноўцы Таруньскага тэатра і камедыю А. Грыбаедава «Гора ад розуму», пастаўленую ў Кракаўскім тэатры імя Ю. Славацкага (аўтарам спектакля быў выдатны пастаноўшчык чэхаўскіх «Трох сясцёр» Б. Дамброўскі). П'еса «Тры сястры» паказана таксама Лодзінскім новым тэатрам у пастаноўцы К. Дзяймека.

Шырокая дыскусія ў польскім друку разгарнулася вакол пастаноўкі п'есы М. Горкага «На дне» ў Кракаўскім старым тэатры імя Маджаеўскай. Гэты, створаны ў сучасным духу, спектакль мае сваіх гарачых прыхільнікаў і праціўнікаў.

Асаблівую цікавасць польскіх гледачоў выклікалі пастаноўкі раду твораў сучасных савецкіх драматургаў. Дваццаць адна савецкая п'еса паказана ў дваццаці сямі тэатрах. Перш за ўсё варта адзначыць п'есу С. Алешына «Усё застаецца людзям» (Варшаўскі класічны тэатр), інсцэніроўку «Залатога цяляці» І. Ільфа і Я. Пятрова (варшаўскі тэатр «Камедыя»), «Аптымістычную трагедыю» Ус. Вішнеўскага ў Кашалінскім тэатры, а таксама «Лазню» Ул. Маякоўскага, дзеянне якой рэжысёрам Т. Александровічам перанесена ў Кашалінскае ваяводства. Эксперымент цікавы, хоць і спрэчны.

Пад няспынныя апладысменты глядзельнай залы ідзе на маладзёжнай сцэне Варшаўскага класічнага тэатра п'еса Хмеліка «Сябар мой, Колька».

Тэатр імя Зямлі Любускай адкрыў свой дзесяты, юбілейны сезон п'есай Л. Ляонава «Нашэсце». Маналітнасць стылю ўсяго спектакля ў цэлым, гармонія акцёрскай ігры, мастацкае афармленне і музыка дапамаглі пераканальна і ярка паказаць барацьбу савецкіх людзей у час гітлераўскай акупацыі.

Цікавы спектакль стварыў Перасоўны тэатр Лодзінскага ваяводства. Ён паказаў упершыню польскай публіцы п'есу Я. Шварца «Цень».

Адбыліся сустрэчы многіх савецкіх пісьменнікаў, драматургаў і кампазітараў з творчымі калектывамі польскіх тэатраў, якія ажыццяўлялі пастаноўкі савецкіх п'ес на сваіх сцэнах.

С. Міхалкоў прысутнічаў на спектаклі «Дзікуны» ў Жашове. Спектакль гэты спадабаўся аўтару сваёй лёгкасцю і гумарам.

Не так даўно Польшчу наведала дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў, якія пішуць для тэатра і аб тэатры. У яе складзе быў драматург А. Арбузаў, п'есу якога «Іркуцкая гісторыя» паставіў у гэтым сезоне Вроцлаўскі драматычны тэатр. Другая п'еса А. Арбузава «Дванаццатая гадзіна» пастаўлена Шчэцінскім драматычным тэатрам, а «Гады вандраванняў»—Варшаўскім народным тэатрам.

Прыезд у Польшчу кампазітара Ю. Мілюціна супаў з пастаноўкай яго аперэты «Пацалунак Чаніты» ў Глівіцкім тэатры аперэты. Здольны, сыграны калектыў тэатра пад кіраўніцтвам М. Сляскага стварыў спектакль, які захапіў не толькі гледачоў, але і самога аўтара.

Гаворачы пра савецкі рэпертуар і яго ролю ў польскім тэатральным жыцці, трэба таксама адзначыць ініцыятыву Сілезскага ваяводскага праўлення ТПСД і аддзела культуры Ваяводскага народнага савета ў Катовіцах. Па ініцыятыве гэтых арганізацый адбыўся мясцовы фестываль савецкіх п'ес, у якім прынялі ўдзел драматычныя тэатры Сілезіі, Бытомскі оперны тэатр, а таксама Рускі драматычны тэатр з Легніцы. Фестываль адкрыўся інсцэніроўкай «Нашэсця» Л. Ляонава ў тэатры імя Міцкевіча ў Чанстахове (рэжысёр М. Лодзінскі). Сасnавецкі тэатр Вугальнага басейна паказаў «Неспакойную старасць» Рахманава (рэжысёр Т. Пшыстаўскі). У Новым тэатры ў Забжы была паказана «Васа Жалязнова» М. Горкага, пастаўленая К. Выджыньскай. Катавіцкі тэатр імя Выспяньскага, які ўдзельнічаў у фестывалі, паставіў п'есу Л. Зорына «Маладосць, каханне, час», а Бытамскі оперны—балет Ф. Яруліна «Шурале» і оперу Даргамыжскага «Русалка».

У заключэнне фестывалю Рускі драматычны тэатр з Легніцы паказаў «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна.

У час сілезскага фестывалю была адкрыта таксама выстаўка, якая ахапіла пастаноўкі савецкіх п'ес у сілезскіх тэатрах за мінулае пятнаццацігоддзе.

У рэпертуарныя планы нашых тэатраў на бягучы сезон уключана шмат п'ес савецкіх аўтараў. Сярод іх—«Крамлёўскія куранты», «Іркуцкая гісторыя», «Трэцяя патэтычная», «Чалавек з ружжом», «Бранядоезд № 14-69», «Клоп» і інш. Пастаноўкі гэтых п'ес даручаны вядучым рэжысёрам і мастакам, у іх прымуць удзел лепшыя акцёрскія сілы.

Высокі мастацкі ўзровень нашага тэатра дае магчымасць меркаваць, што класічная і сучасная савецкая драматургія з новай сілай захопіць польскага гледача і дасць яму магчымасць пазнаёміцца не толькі з культурнай спадчынай народаў СССР, але і са штодзённым жыццём савецкіх людзей.

**Тадэуш КСІЁНЖАК,**
**сакратар Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы.**

# Прымусовае музычнае абслугоўванне

**ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ**

Дзіўныя парадкі ў касе мазырскага кінатэатра «Радзіма». Вы можаце тут адразу купіць тузін білетаў і не на адзін, а на розныя сеансы.

У дні, калі на экране ідзе добры фільм, многім гледачам зусім немагчыма падыйсці да запаветнага касавага акенца: з усяго горада сюды сыходзяцца дужыя маладыя людзі, бяруць білеты сабе, сваім сябрам, знаёмым...

«Аптовы» гандаль білетамі вядзе да таго, што нярэдка можна назіраць такую карціну: на адно месца прэтэндуюць два, а то і тры чалавекі.

Шмат разоў жыхары горада звярталіся да дырэктара кінатэатра тав. Мельнікавай з просьбай прадаваць білеты, як у іншых гарадах, — не больш трох-чатырох у адны рукі, але ўсё дарэмна—парадкі, заведзеныя касірам і ўхваленыя дырэктарам, не мяняюцца.

Тут выразшылі, што лепшы сродак прыцягнуць кінагледачоў — музыка. На франтоне будынка кінатэатра вывесілі магутны дынамік, і вось ужо некалькі месяцаў вуліца Леніна, на якой знаходзіцца кінатэатр, напаўняецца гучнымі мелодыямі і песенькамі. Жыхары навакольных дамоў, вучні школы-інтэрната, размешчанага побач з кінатэатрам, і малыя з дзіцячага сада, што насупраць кіно, ніколі не могуць спакойна адпачыць.

Тав. Мельнікава, калі да яе звярнуліся жыхары вуліцы Леніна, заявіла:

— Не падабаецца вам наша музыка, зачыніце вокны!

Зачынілі і вокны. Але ці могуць спаборнічаць няхай нават двайныя рамы з сілай магутнага дынаміка! Так вось і жывуць, напрыклад, жыхары шматкватэрнага дома № 9, што побач з кінатэатрам, на прымусовым «музычным забеспячэнні». Захоча, скажам, чалавек паслухаць па радыё Першы канцэрт Чайкоўскага, але з вуліцы даносяцца (у соты раз!) мелодыі з кінафільма «Раман і Франчэска». Школьнік сядзе вучыць урокі, але ці да ўрокаў, калі ў вушы яму лезе песенька пра закаханых.

Між тым рэклама і прапаганда фільмаў тут пастаўлена дрэнна.

Вось некалькі прыкладаў. Калі на экраны выйшаў кінафільм «Сярожа», прызнаны лепшым з карцін 1960 года, тав. Мельнікава не палічыла патрэбным нават пусціць яго на вялікі экран. Фільм дэманстраваўся толькі ў дзіцячым кінатэатры з маленькай залай.

Тое ж самае адбылося з выдатнай карцінай «Палаючы востраў». Толькі пасля настойлівых просьбаў гледачоў фільм быў пушчаны на вялікім экране і то толькі адзін раз.

**М. ПАЛКІН.**

# У ЛІТОЎСКІМ ДРУКУ

У пятым томе прац Інстытута літоўскай літаратуры і мовы «Літэратура ір калба» («Літаратура і мова») змешчаны цікавы артыкул Костаса Корсакаса «Скарбніца беларускага фальклору». Ён прысвечан V і VI тамам народных беларускіх песень «Беларускі народ» («Люд бяларускі») вядомага польскага этнографа і фальклярыста Міхаіла Федароўскага (1853 — 1923), выдадзеных аддзяленнем славістыкі Акадэміі навук Польшчы ў Варшаве ў 1958 — 1960 гг.

* * *

У верасні гэтага года літаратурная грамадскасць краіны адзначала 60-годдзе з дня нараджэння і 35-годдзе літаратурнай дзейнасці вядомага беларускага драматурга, празаіка і літаратурнага крытыка Віталія Вольскага.

У сувязі з гэтым літоўская штотыднёвая літаратурная газета «Літэратура ір менас» («Літаратура і мастацтва») надрукавала артыкул І. Лігумаса «Юбілей Віталія Вольскага». У ім адзначаецца папулярнасць твораў беларускага пісьменніка.

* * *

У № 9 літоўскага інфармацыйнага бюлетэня «Бібліятэку дарбас» («Бібліятэчная работа») за гэты год надрукаваны артыкул загадчыцы навукова-метадычнага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі Беларускай ССР імя Ул. І. Леніна І. Санковай «Мы рады дасягненням сяброў». Аўтар — удзельнік арганізаванай Міністэрствам культуры СССР міжрэспубліканскай брыгады бібліятэчных работнікаў для азнаямлення з вопытам работы бібліятэк Літоўскай ССР па абслугоўванню кнігай кожнай сельскай сям'і — расказвае пра бачанае ў бібліятэках братняй рэспублікі і пра дасягненні лепшых сельскіх бібліятэк Беларусі.

**Ш. ЛІРАВА.**

г. Вільнюс.

Перад паездкай у Індыю і Інданезію артысты савецкага цырка паказваюць у гэтыя дні мінскім аматарам цыркавога мастацтва цікавую і разнастайную праграму.

На манежы Мінскага цырка выступаюць многія вядомыя майстры цыркавой арэны: комік-парадыст, заслужаны артыст РСФСР Б. Вяткін, эквілібрыст, заслужаны артыст РСФСР М. Ягораў, мастацка-акрабатычная група Дзёмкіных, жанглёры Кажуховы, турністы Мікалаевы, эксцэнтрыкі з гадзіннікам Вавілавы і іншыя.

На здымку вы бачыце мастацка-акрабатычную групу Дзёмкіных.

Фота **Ул. Крука.**

# Слядамі Элізы Ажэшка

Гарыстая мясцовасць, такая характэрная для ваколіц Гродна, паступова пераходзіць у шырокую раўніну, на якой раскінулася Скідзельшчына. З правага боку шырокай і прамой стужкі дарогі гэтую раўніну абдымае рака Котра, з левага — Свіслач. Яны зліваюцца з Нёманам і коцяцца разам далей, да Балтыйскага мора.

Бяжыць дарога, сцелецца па шырокіх заліўных лугах. І толькі дзесьці на гарызонце, на высокім левым беразе Нёмана, густа сінее цёмны наднямонскі лес.

Многа чаго пабачыла на сваім вяку Наднямонне. Тут сустракаў Пётр І няпрошанага госця Карла XII, тут праз Нёман рваўся да Масквы Напалеон, адсюль распраўляў да палёту арліныя крылы Кастусь Каліноўскі. Адсюль, з-пад Гродна, выйшла першая беларуская паэтэса Цётка, тут нарадзіўся акадэмік Ф. Карскі, тут чэрпалі натхненне А. Міцкевіч і Э. Ажэшка.

Многае для творчасці выдатнай польскай пісьменніцы дала наша родная Гродзеншчына. Яшчэ і цяпер у наднямонскім краі сустрэнеш дзесяткі чалавек, якія паслужылі пісьменніцы прататыпамі яе герояў або проста бачылі ці ведалі яе.

Вось вёска Багатырэвічы на Скідзельшчыне. Тут праводзіла пісьменніца летні час, захаплялася Нёманам, знаёмілася з жыццём і бытам сялян, слухала іх песні і казкі.

Жыхары Багатырэвіч і дагэтуль памятаюць, што Э. Ажэшка была ў іх частым госцем. Яны добра знаёмы з творчасцю пісьменніцы. Адзін калгаснік, чалавек ужо немалады, гаворыць: «Яна часта прыязджала ўлетку да нас. Многія памятаюць яе, яшчэ нават песень яе не забыліся. І мы яшчэ ў маладосці спявалі гэтую песню:

«Пры дарозе явар ля самага краю...»

Словы гэтай песні спяваў, ідучы за плугам, герой рамана «Над Нёманам» Ян, прататыпам якога, можна меркаваць, быў Ян Багатырэвіч, што жыў недалёка ад вёскі Багатырэвічы.

У гэтым буйнейшым рамане пісьменніцы лёгка пазнаць многія тутэйшыя мясціны — бераг Нёмана, Мінявіцкі лес, дзе пахаваны паўстанцы 1863 года, роў і грабніцу, і самую вёску Багатырэвічы.

Адлюстроўваючы падзеі 1863 года, пісьменніца ў рамане вядзе гутарку аб людзях наднямонскага краю, рэзка крытыкуе арыстакратыю, шляхецкія норавы, паэтызуе працу селяніна.

Пісьменніца творча выкарыстоўвала фальклорны матэрыял, напрыклад, легенду аб заснавальніках роду Багатырэвічаў — Яне і Цэцыліі.

У канцы вёскі Багатырэвічы, за глыбокім ровам, ёсць магіла. На ёй ляжыць камень, датаваны 1549 годам, з надпісам: «Ян і Цэцылія». Старажыл вёскі Эдвард Міхайлавіч Багатырэвіч (80 гадоў) расказвае цяпер такую легенду. Даўным-даўно ў іх край прыйшло двое людзей. Яны шукалі «пустыннае месца». Відаць было па ўсім, што хацелі схавацца ад людскога вока. Ян, загарэлы, моцны, быў з простых людзей. Цэцылія — са знатнага роду. Ён сек дровы, яна — збірала арэхі і дзікія яблыкі. Яны моцна кахалі адно аднаго і былі шчаслівыя. Шэсць сыноў і дачок было ў іх.

Мінуў час. Нехта данёс літоўскаму князю аб уцекачах, і ён прыехаў са світай паглядзець на іх. Стогадовая пара ў суправаджэнні сыноў, дачок, унукаў і праўнукаў выйшла з хаты. Князь быў здзіўлены іх сілай і прыгажосцю. І вось за тое, што здолелі яны адваяваць у пушчы і дзікага звера гэтую зямлю, ператварылі берагавы наднямонскі лес ва ўрадлівае поле, сталі іх называць людзі багатырамі. Адсюль і пайшла назва вёскі — Багатырэвічы.

У вёсцы цяпер 16 двароў, з іх у дзевяці гаспадары па прозвішчу Багатырэвічы. Кажуць, што раней тут былі адны Багатырэвічы, і толькі з прыходам прымакоў да дзяўчат з'явіліся іншыя прозвішчы.

За гады Савецкай улады ў жыцці Багатырэвіч адбыліся вялікія змены. Цяпер гэта — цэнтр сельскага Савета. Да паслуг членаў калгаса «40 год Кастрычніка» школа, аддзяленне сувязі, медыцынскі пункт, магазін, калгасны радзільны дом, радыё. Новае жыццё прыйшло ў вёску.

Знаёмства з творчасцю Э. Ажэшка сведчыць, што яна выкарыстоўвала ў сваіх творах багаты фальклор Гродзеншчыны, скажам, паданне пра «ведзьму» ў вёсцы Сухая Даліна.

Калі пачаць з жыхарамі Сухой Даліны гутарку пра існаванне «ведзьмы» ў іх вёсцы (апісанай Э. Ажэшка ў рамане «Дзюрдзі»), яны дружна смяюцца, бо цяпер ніхто не верыць тут у ніякія забабоны.

У Гродна жыве былая пакаёўка Э. Ажэшка — Бандарчук Ганна Іванаўна, 77 год. Нюрачка, як звала яе пісьменніца, памятае: «Ажэшка заўсёды ішла насустрач бедным людзям, спачувала ім. Я таксама заўсёды адчувала да сябе яе ласку і дабрату». Ганна Іванаўна жыла ў пісьменніцы шэсць гадоў, пакуль не выйшла замуж за фурмана. Яна добра памятае сваю былую гаспадыню, многа расказвае аб ёй як аб добрым чалавеку.

Э. Ажэшка многа гадоў пражыла на Беларусі, на Гродзеншчыне. Яна надзвычай добра ведала быт і характар мясцовага селяніна, яго песні, казкі, легенды. Гэта давала ёй матэрыял для творчасці. Дастаткова сказаць, што тэма жыцця прыгнечанага беларускага сялянства займае ў творчасці пісьменніцы вялікае месца. Пра беларускага мужыка піша Э. Ажэшка ў 1866 годзе сваё першае друкаванае апавяданне «У галодны год», пра абяздоленую беларускую вёску расказваюць і яе буйныя творы: «Тадэуш», «Нізіны», «Дзюрдзі», «Хам».

Польская пісьменніца з павагай ставілася да беларускага народа, да простага чалавека. У пісьме ад 9 кастрычніка 1890 года яна пісала: «Ніштo мне ўжо не заменіць людзей, акружаючых вёску Міневічы (на Скідзельшчыне). Я шмат выкарыстала ад іх, інтэлектуальна і сэрцам наблізілася да іх».

І, ходзячы цяпер па тых мясцінах, па якіх хадзіла вялікая польская пісьменніца, сустракаючы патомкаў тых, пра каго яна пісала ў сваіх бессмяротных творах, радасна адчуваць, што светлыя вобразы, створаныя пісьменніцай у «пору цёмнай ночы», нібы знаходзяць сваё сапраўднае жыццё ў справах людзей наднямонскага краю.

**С. ДРОЗД,**
**дырэктар школы № 8 г. Гродна.**

# РЭАЛІСТ, ДЭМАКРАТ

Беларускаму народу добра вядома імя выдатнага польскага кампазітара Станіслава Манюшкі. Яго жыццё і творчасць цесна звязаны з Беларуссю, з яе народам. Тут, у маёнтку Убель на Міншчыне, ён нарадзіўся, тут прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. У Мінску будучы кампазітар наведваў гімназію. Тут жа ён пачаў браць першыя ўрокі па музыцы ў дырыжора тэатральнага аркестра Дамініка Стафановіча. У перыяд сваёй творчай сталасці Станіслаў Манюшка неаднаразова выкарыстоўваў багацці беларускага меласу, пісаў музыку да твораў беларускага пісьменніка В. І. Дуніна-Марцінкевіча. На мінскай сцэне оперы і аперэты гэтага кампазітара ставіліся як да рэвалюцыі (напрыклад, «Латарэя»), так і ў савецкі час (опера «Страшны двор»).

Беларускі чытач, несумненна, з вялікай цікавасцю сустрэне даследаванне польскага музыказнаўцы Вітальда Рудзінскага, прысвечанае творчасці выдатнага кампазітара. Трэба адзначыць, што гэта ўжо не першая манаграфія пра нашага земляка. Жыццёваму і творчаму шляху С. Манюшкі прысвечаны кнігі А. Валіцкага, У. Гулевіча, А. Кохлер, З. Яхімецкага і іншых польскіх аўтараў. Але даследаванне В. Рудзінскага выгадна адрозніваецца багаццем сабранага матэрыялу, абгрунтаванасцю вывадаў. Калі раней творчасць Манюшкі разглядалася з пазіцый буржуазнага аб'ектывізму, то В. Рудзінскі ацэньвае спадчыну вялікага кампазітара, зыходзячы з марксісцкіх крытэрыяў, асноўную ўвагу звяртае на такія якасці яго твораў, як народнасць, рэалістычнасць, патрыятызм.

Манаграфія В. Рудзінскага пралівае дадатковае святло на сувязі С. Манюшкі з беларускімі сялянамі, прыносіць новыя звесткі аб тым асяроддзі, сярод якога жыў кампазітар на Беларусі. Даследчык падкрэслівае, што прадстаўнікі сям'і Манюшкаў многа зрабілі для пашырэння на беларускай зямлі асветы і культуры. Бацька будучага кампазітара Чаславу Манюшка і яго браты Дамінік, Юзаф і Казімір выхоўваліся ў духу гуманістычных ідэй, якія ў пачатку мінулага стагоддзя пашыраў Віленскі універсітэт. У гэтай сям'і ўсе лічылі, што сяляне — роўныя шляхце, маюць аднолькавыя правы на зямлю, на адукацыю. Так, Дамінік Манюшка яшчэ да адмены прыгоннага права аддаў сваю зямлю беларускім сялянам, адкрываў школы для вясковых хлопчыкаў і дзяўчынак, увёў мясцовыя суды з удзелам сялян. Але неўзабаве царскія ўлады закрылі гэтыя школы, ліквідавалі суды. Чыноўнікам з Ігумена (цяпер Чэрвень) і Барысава, зазначае В. Рудзінскі, вельмі не падабаліся такія новаўвядзенні. Юзаф Манюшка часта арганізоўваў спектаклі, на якія прыходзіла моладзь з навакольных вёсак. У антрактах яна танцавала «Мяцеліцу» ці «Лявоніху», спявала частушкі. Тады, піша даследчык, слых будучага кампазітара «прагна паглынаў любімыя польскія і беларускія народныя песні». На выхаванне С. Манюшкі вялікі ўплыў зрабіў і трэці дзядзька — Казімір. Ён быў выпускніком Віленскага універсітэта, доктарам права. Па яго ініцыятыве ў Смілавічах была арганізавана школа для местачковай беднаты. К. Манюшка захапляўся грамадскімі навукамі, прыродазнаўствам. У Смілавічы, дзе ён выводзіў новыя гатункі раслін, прыязджаў вядомы вучоны-хімік А. Снядэцкі. Казімір Манюшка выхаваў у сваёго пляменніка любоў да літаратуры, чытаў яму творы Міцкевіча, прадстаўнікоў польскага класіцызму. Там жа, у Смілавічах, на хлопчыка вялікае ўражанне зрабіў старадаўні замак. Хадзіла легенда, быццам апоўначы, нікім не заведзеныя, у замку пачынаюць біць чарадзейныя куранты. Праз многа год кампазітар выкарыстаў гэты матыў у оперы «Страшны двор».

В. Рудзінскі падрабязна спыняецца на дзіцячых і юнацкіх гадах кампазітара, праведзеных у Мінску. Сюды таксама дакаціліся водгукі польскага паўстання 1830 года. За свае перадавыя погляды бацька кампазітара быў звольнены са службы ў адной з калегій. «На некалькі бліжэйшых год ціхі дом Манюшкаў у Мінску пакрыў цень лістападаўскай ночы», — піша даследчык, маючы на ўвазе разгром накіраванага супраць царызму Лістападаўскага паўстання 1830 года. У сувязі з яго падаўленнем больш рэакцыйныя парадкі ўсталяваліся і ў Мінскай гімназіі. З гэтай прычыны Станіслаў Манюшка пакінуў яе ў 1835 годзе, закончыўшы ўсяго шэсць класаў. Ужо тады юнак быў добра знаёмы з многімі прадстаўнікамі мінскага культурнага свету. В. Рудзінскі зазначае, што ў мінскім доме Манюшкаў вечарамі часта збіраліся аматары мастацтва. Сярод іх быў стары вальнадумец Карафа Корбут, які, як казалі, іграў на 24 інструментах. Сюды ж часта прыходзіў вядомы мастак Валянцін Ванковіч. Разам з бацькам кампазітара ён абсталяваў у мансардзе майстэрню, дзе маляваў копіі са славутых палотнаў. У юнацтве Станіслаў Манюшка сябраваў з мінчанінам Фларыянам Міладоўскім, які таксама стаў кампазітарам.

У 1836 годзе С. Манюшка паехаў у Вільню. Там ён пазнаёміўся са спектаклямі мясцовай оперы. У тэатры тады ставіліся пераважна творы зарубежных кампазітараў. Маладога Манюшку гэта вельмі абурала; ён сур'ёзна задумаўся над стварэннем нацыянальнага рэпертуару. Адначасова заняўся і літаратурнай працай. Для мясцовага тэатра Манюшка пераклаў трагедыю Дэлавіня «Парыя». У цэнтры твора былі вобразы індыйскай беднаты. Манюшка бачыў яе, піша аўтар, апранутай «у беларускія порткі і польскія сярмягі». Цэнзура не дапусціла п'есу да пастаноўкі.

Для таго, каб папоўніць свае веды, Манюшка едзе ў Германію, дзе паступае ў Берлінскую акадэмію мастацтваў. Там жа былі надрукаваны яго першыя творы — «Тры песні» на словы Міцкевіча ў перакладзе на нямецкую мову. Крытыка адзначыла наватарскі характар гэтых песень, іх народнасць, нацыянальную самабытнасць. Вярнуўшыся ў Вільню, кампазітар змагаецца за тое, каб мясцовыя музычныя калектывы мелі арыгінальны, нацыянальны рэпертуар, піша некалькі аперэт. Сярод іх «Ідылія» («Сялянка») на словы Дуніна-Марцінкевіча. На жаль, В. Рудзінскі лічыць яго чамусьці «польска-беларускім» паэтам. Такое ж сцвярджэнне ёсць і ў рэдакцыйных заўвагах. А між тым асноўныя творы Дуніна-Марцінкевіча напісаны на беларускай мове. Шкада таксама, што даследчык нічога не гаворыць аб іншых аперэтах Манюшкі, напісаных на словы беларускага паэта — «Рэкруцкі набор», «Бойка музыкаў» і «Цудоўная вада», аб тым, што асобныя мелодыі «Ідыліі» былі затым выкарыстаны ў операх «Страшны двор» і «Галька». Празмерна агульна гаворыць В. Рудзінскі і аб тым, як кампазітар выкарыстоўваў у сваёй творчасці скарбы беларускага меласу. Факты часцей за ўсё толькі называюцца, а не раскрываюцца. А між тым, напрыклад, такі цыкл, як «Песні прынёманскіх вёсак», дае багаты матэрыял для супастаўленняў з беларускім фальклорам.

Удаўся аўтару раздзел, прысвечаны стварэнню оперы «Галька». Як вядома, лібрэта гэтага твора было напісана варшаўскім паэтам Уладзімежам Вольскім і затым па-майстэрску перакладзена на беларускую мову Янкам Купалам. Працуючы над операй, Манюшка пастаянна цікавіўся жыццём беларускіх сялян. Па дарозе ў Мінск, піша В. Рудзінскі, ён прыглядаўся да танцаў, прыслухоўваўся да песень, хадзіў на вясковыя вяселлі, хрэсьбіны і пахаванні. І хаця дзеянне «Галькі» адбываецца ў Галіцыі, аўтар выкарыстаў у творы свае беларускія назіранні. Асноўны канфлікт оперы, канфлікт паміж панамі і сялянамі, трагічны лёс прыгоннай сялянкі Галькі былі тыповымі і для Беларусі. Царская цэнзура доўгі час забараняла «Гальку» за яе дэмакратычную накіраванасць. Упершыню опера была пастаўлена толькі ў 1857 годзе. У штыкі сустрэлі ўлады і оперу «Страшны двор», якая была напісана з мэтай узняць патрыятычны дух пасля крызісу, выкліканага паражэннем паўстання 1863 года.

Апошнія гады свайго жыцця кампазітар праводзіць у Варшаве, дзе працуе дырыжорам опернага тэатра. У гэты час ён піша оперы «Плытагон», «Графіня», «Вербум нобіле». У пошуках тэм і вобразаў Манюшка па-ранейшаму звяртаецца да беларускага фальклору (асабліва — у кантаце «Прывіды», напісанай на словы міцкевічаўскіх «Дзядаў»).

Матэрыяльныя нястачы, барацьба з цэнзурай і крытыкай, а таксама канфлікты з віяланчалістам А. Концкім падарвалі здароўе Манюшкі. Ён памёр 4 чэрвеня 1872 года. У яго пахаванні ўдзельнічала каля 100 тысяч чалавек. Насупраць опернага тэатра картэж спыніўся і аркестр выканаў урыўкі з манюшкаўскіх опер. Так народ развітваўся са стваральнікам нацыянальнай оперы, выдатным рэалістам і дэмакратам.

Калі чытаеш кнігу В. Рудзінскага, міжвольна думаеш, што ў Беларусі, на радзіме кампазітара, усё яшчэ мала робіцца для папулярызацыі творчасці Манюшкі. Яго творы рэдка гучаць па беларускаму радыё, у канцэртным выкананні. Нічога не зроблена і для ўшанавання памяці кампазітара. А гэта можна і варта было б зрабіць у наступным, 1962 годзе, у сувязі з 90-годдзем з дня смерці Манюшкі.

**А. МАЛЬДЗІС.**

Вітальд Рудзінскі. «Манюшка». Дзяржаўнае музычнае выдавецтва. Масква, 1960. Пераклад з польскага.

ПАЛЯЎНІЧАЕ ШЧАСЦЕ КЛІЧА.

Фотаэцюд А. Дзітлава.

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА, (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва— 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.
«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.
АТ 00452
Друкарня выдавецтва «Звязда».